Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 26 | Нядзеля, 21-га Верасьня 1924 г. | Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. | Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр. За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр., у тэксьце — 10 гр., на апош. стар. — 5 гр.

## Годзі ваяваць!

Сягоньня — дзень міжнароднае дэмонстрацыі арганізованых у профэсыянальныя саюзы рабочых, якія хочуць выказаць свой солідарны пагляд на адно пытаньне: патрэбна вайна, ці не?

Адказ на гэтае пытаньне ў працоўных масаў усіх народаў саўсім ясны — трэба старацца, каб вайны ніколі ня было, каб усе міжнародныя конфлікты рашаліся ня збройнай сілаю, а міравым спосабам, трацейскім міжнародным судом.

Беларускі народ, зьведаўшы на карку сваім увесь горкі смак апошняй сусьветнай вайны, народ, які складаецца блізу што цалком з працоўнае сялянскае гушчы ды працоўнае інтэлігэнцыі, можа сьмела далучыць свой голас протэсту проці ўсякае вайны.

Сапраўды! што далі апошнія войны нашаму народу?

У сусьветнай вайне, якая пракацілася па ўсёй Беларусі ад краю да краю, ледзь не загінула ўсё жывое на Беларусі.

Масы ўцекачоў нашых апынуліся ня толькі ў Велікаросіі, а навет у азіяцкіх землях бышае Расеі — Сыбіры й Сярэдняй Азіі.

Шмат беларусаў загінула на выгнаньні, некаторыя з іх вярнуліся назад і, вельмі часта, толькі на адны попелішчы.

Хто падлічыў сірот і ўдоваў па загінуўшых на вайне, па загінуўшых у бежанстве?

Хто паруціўся аб палягчэньні іхняга гаротнага лёсу, які злажыўся ў рэзультаце вайны?

Апошняя вайна Польшчы з бальшавікамі спынілася таксама на Зямлі Беларускай.

Гэтак хацелася нашаму гістарычнаму лёсу.

І мы ня мелі спосабу перайначыць падзеі.

Бальшавікі сілаю зброі стараліся накінуць Польшчы свой лад, паўстаўшая да незалежнасьці Польшча мусіла бараніцца і фінал гэтае абароны раз'іграўся на нашых родных палёх.

А калі азірнуцца назад у гісторыю, дык ня трудна прыпомніць, што тут-жа ў нас пад Смаргонямі Напалеён Бонапарт кінуў сваю армію больш як сто гадоў назад, уцякаючы да сябе ў Францыю па новыя сілы. Розныя, падуладныя Напалеёну, народы тапталі нашую зямлю.

Праходзіў па Беларусі і швэдзкі кароль Карусь XII больш як дзьвесьце гадоў назад у вайне з расейскім царом Пётрам Вялікім.

Было шмат жаху і ў тыя старыя войны і аб іх цяпер у народзе нашым не пагасьлі яшчэ паданьні ды легэнды.

Хто толькі ні ваяваў, а нам ад гэтага заўсёды даставалася на гарэхі.

Дык пэўна-ж, Беларускі Народ ніяк ня можа быць прыхільным да вайны.

Паглядзім з большага, чаго каштуюць людзям войны і ці магчыма абыйсьціся бяз іх?

Падлічана, што Напалеён за 20 гадоў сваіх войнаў загубіў каля 8 мільёнаў чалавек. Калі-б палажыць гэтых забітых такім чынам, што галава аднаго стыкалася-б з нагамі другога, дык выйшаў-бы ланцуг даўжынёю ў 11 тысячаў вёрст!

У апошняй вайне 1914—1918 гг. загінула каля 10 мільёнаў забітымі.

І ўсё гэта — самы цьвет чалавечай энэргіі, ўсё людзі здольныя да барацьбы.

Якая вялізарная шкода прынесена ўсяму сьвету, якая творчая сіла змарнована ліха ведае нашто!

У кожным ваяваўшым краі — ўдовы, сіроты, калекі (інваліды), ўсюды дарагоўля, цяжкія варункі жыцьця, расстроеная гаспадарка, лячэньне ваенных ранаў—адбудова зьнішчаных народных багацьцяў.

Матар'яльныя страты ад апошняе вайны яшчэ доўга будуць падлічвацца вучонымі.

А найгорш за ўсё тое, што вайна родзіць зьверства сярод людзей, плодзіць праступнасьць, усе моральныя цэннасьці паніжаюцца.

Немцы, ў якіх усякая статыстыка пастаўлена вельмі добра, спачатку ўцешыліся, калі цыфры ў першы год вайны паказалі паніжэньне праступнасьці ў параўнаньні з перадваенным часам, але які быў жах нямецкага грамадзянства, калі з кожным далейшым годам праступнасьць у сваім павялічэньні пачала перарастаць усякую прапорцыю!

Сапраўды, адкуль увесь гэты штодзенны бандытызм, пра які ўжо абрыдла чытаць у газэтнай хроніцы і аб якім ня чуваць было перад вайною. Тое, што тады было рэдкім дзікім зьявішчам раз на дзесятак ці болей гадоў, цяпер атручвае быт народу, як ледзь што ня правіла.

Выходзіць, што шкода ад вайны—неаблічальная рэч. І ня дзіва, што арганізованае работніцтва ўсяго сьвету паднімае свой дружны голас протэсту проці самае магчымасьці новых войнаў. Ня дзіва, што дзе-нібудзь у Жэнэве дзяржаўныя мужы ўсяе Эўропы ламаюць галаву над тым, каб знайсьці спосабы вырашаньня непаразуменьняў паміж народамі без вайны, без забойства чалавека чалавекам.

І спосаб ёсьць. Трэба толькі, каб усе дзяржавы, а прынамсі ўсе наймагутнейшыя з іх, паразумеліся паміж сабою ды згадзіліся, усе міжнародныя спрэчкі гэтым спосабам рашаць.

Спосаб гэты—трацейскі міжнародны суд.

Гісторыя ўжо ведае спробы рашаньня міжнародных спрэчак трацейскім судом і налічвае іх за апошнія гадоў сто пяцьдзесят больш як паўсотні.

Народы шмат ваявалі, але вось пэўных больш як пяцьдзесят разоў ухіліліся ад вайны і напэўна не пашкадавалі аб тым, што зрабілі.

Кожнаму ясна, што лепей не ваяваць, чымся ваяваць.

Вось прыклад аднаго трацейскага суда:

Англія і Паўночна-Амэрыканскія Злучаныя Штаты паспрачаліся аднаго разу паміж сабою аб шкодзе, якую зрабіў амэрыканцам адзін рабаўласьніцкі карабель падчас амэрыканскае міжусобнае вайны. Ангельцы памагалі гэтаму караблю грабіць амэрыканцаў.

У Швэйцарыі сабраўся трацейскі суд, разглядзеў справу і прызнаў Англію вінаватаю, і прыгаварыў яе заплаціць за ўсю шкоду.

Англія заплаціла 150 мільёнаў залатых рублёў. Гэта грошы вялікія, але хто ведае, ў колькі разоў даражэй ёй каштавала-б вайна, ня лічачы чалавечых ахвяраў ды ўсіх пасьледзтваў вайны?

Бяручы ўсё сказанае пад увагу, сапраўды робіцца ясным, што пара людзям зразумець адну простую рэч — ваяваць годзі!

---

## Палітычны агляд.

Амаль што ня ўвесь стары сьвет апрача Аўстраліі, гэта знач. Эўропа, Азія і Афрыка, знаходзяцца ў палажэньні ўнутранага бражэньня, якое то там, то сям выліваецца ў форму адкрытых паўстаньняў, як выбухі вулькану. Каўкаскае паўстаньне агарнула мала што ня ўвесь Каўказ і цяпер ідзе страшэннае змаганьне за ўладу над важнейшымі палітычна-ваеннымі і прамысловымі цэнтрамі, як прыморская крэпасьць Батум, Баку з найбагацейшымі на сьвеце крыніцамі газы, якія знаходзяцца ў агні барацьбы, і інш. Паўстанцы, дзеля таго, каб перашкодзіць саветам перакідаць войскі па чыгунцы, зьніштожылі мала што ня ўсе важнейшыя тунэлі, якія былі ў іхніх руках. Між іншым разрушана труба, праз якую лілася газа з Баку ў Батум, каб яе лягчэй было нагружаць на марскія параходы.

Апрача таго грузінскае паўстаньне, каторае карыстаецца сымпатыямі ўсяго культурнага сьвету, выклікае міжнародны конфлікт між саветамі і эўропэйскімі дзяржавамі. Па ініцыятыве францускага дэлегата ў Лізе Народаў, Бонкура, якога падтрымалі прадстаўнікі Англіі і Бэльгіі, ўнесена ў Лігу Народаў прапазыцыя, каб эўропэйская дзяржавы выступілі ў абарону маленькай геройскай Грузіі, каторая жадае вызваліцца з маскоўскай няволі. Гэту прапазыцыю Ліга Народаў падтрымала і хутка трэба спадзявацца выступленьня яе на Каўказе. Але трудна спадзявацца рэальнай падмогі ад эўропэўскіх дзяржаваў, запутаўшыхся ўва ўнутраных нязгодах датычна адносін да С. С. Р. Р. Аб гэтых нязгодах піша навет савецкая офіцыяльная прэса, рашуча выступіўшая проці быццам недапусьцімага ўмяшаньня ўва ўнутраныя справы С. С. Р. Р. Савецкія газэты „Праўда“ і „Известия“ энергічна па гэтаму поваду нападаюць на Макдональда і Эрыё, з каторых першы ўжо прызнаў савецкі ўрад, а другі зьбіраецца прызнаць, выказваючы гэтак сувэрэннасьць савецкае ўлады на тэрыторыі ўсяго саюзу савецкіх рэспублік, у тым ліку й на Каўказе. Гэткім чынам, паводле думак савецкай прэсы, а знакам тым і савецкай дыплёматыі дзеяньні Макдональда і Эрыё даказваюць іхнюю фальшывасьць. Гэткае выступленьне вялікіх дзяржаваў а асабліва Англіі, бальшавікі лічаць недатрыманьнем зробленага нядаўна, хаця яшчэ не зацьверджанага, ангельска-савецкага дагавору, паводле каторага адны й другія ня маюць права ўмешавацца ўва ўнутраныя чужыя

бы апыніцца не нямецкі народ, а Вільгэльм і міністры Францішка-Язэпа. У § 227 Вэрсальскага трактату й гаворыцца аб адпавядальнасьці Вільгэльма, але саюзьнікі, як падкрасьляе Каўцкі, чамусьці саусім аб гэтым параграфе запомнілі, падмяніўшы затым Вільгэльма нямецкім народам у ролі вінаўніка вайны. „Вінаватага імпэратара пашкадавалі, — піша Каўцкі, — а бязьвінны народ цяжка пакаралі“... і ён перасьцерагае нямецкія ўрады ад зьмяшаньня народу з імпэратарам: стварыць болей спагадную ў пытаньні аб адпавядальнасьці міжнародную атмосфэру можна ня шляхам протэсту проці пэўнага параграфу дагавору, а толькі шляхам рашучага адрачэньня ад вільгэльмаўскае палітыкі 1914 году.

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

## У Польшчы.

„Kurjer Poranny“ піша, што ў соймавых і палітычных кругох расказваюць, што як пачнецца васеньняя сэсія Сойму, дык магчыма, што адбудзецца рэканструкцыя ураду ў сэнсе ўзмацаваньня яго людзьмі, палітычна сільнымі. Пры гэтым дадаюць, што пагаласкі аб стварэньні новага парлямэнтарнага ураду зьяўляюцца бязгрунтоўнымі.

У мінулы чацьвер засядаў у соймавым будынку парлямэнтарны клюб Сялянскага Саюзу (група паслоў Брыля і Плюты). Паміж іншым, шырока абгаварвалася справа кансолідацыі левых партыяў.

На пазаўчарашнім паседжаньні Рады Міністраў установлены множнік да вурадніцкіх пэнсіяў на кастрычнік месяц у разьмеры 38 пунктаў. У верасьні быў множнік — 35.

Маршалак Сойму п. Ратай замерваецца склікаць сэньёрэм-конвэнт у пачатку кастрычніка, а Сойм паміж 15 і 20 кастрычніка. П. Ратай думае, што Сойм перш за ўсё займецца бюд'жэтам на 1925 год, а затым самаўрадовымі законапроектамі і зямельнай рэформаю.

На моцы пастановы Міністэрства Унутраных Справаў зачынена варш. т-ва пад назовам „Народны Унівэрсытэт“ на Абознай вул., 4. Матывамі зачыненьня служыць „антыдзяржаўная дзейнасьць“. Народны Унівэрсытэт загадана зараз жа зьліквідаваць.

Варшаўскі Камісарыят Ураду аблажыў арыштам часопіс „Arbeiter Welt“ № 24 за артыкул „V камуністычны конгрэс“.

Як паведамляюць з Львова, суд, разглядаўшы справу Штэйгера, абвінавачанага ў замаху на п. Прэзыдэнта Рэспублікі, прызнаў сябе некомпэтэнтным з прычыны браку аднагалоснасьці і пераказаў справу сьледчаму судзьдзі. Штэйгэр назад пасланы ў сьледчы вастрог.

На 26 кастрычніка ў Варшаву склікаецца ўсяпольскі конгрэс Народна-Нацыянальнага Польскага Саюзу (Zw. Lud. Narod.).

## За граніцай.

5-га верасьня пад маршалкоўствам Нансэна ў Жэнэве адбылася **нарада камісіі пры Лізе Народаў, занятай пытаньнем аб уцекачох.** У прынятай рэзалюцыі гаворыцца, што праца камісіі павінна цягнуцца да таго часу, пакуль, як належыць, ня будзе вырашаны лёс уцекачоў (бежанцаў) і што для гэтай мэты камісія павінна адтрымаць неабходныя кошты.

Палітычны корэспондэнт „Star“ прыпушчае, што **ангельскі** ўрад Макдональда пастараецца ўхіліцца ад роспуску парлямэнту на пытаньні аб англа-савецкім дагаворы, і што перавыбары адбудуцца ня ўвосень, а ў канцы лютага ці ў пачатку сакавіка будучага году.

Газэты паведамляюць з **Белграду,** што партыя Радзіча пастанавіла ўвясьці ў склад ураду двух сваіх сябраў. Як пішуць, кандыдатамі на міністэрскія пасады называюць абодвух віцэ-прэзэсаў партыі — Мачэка і Прасавеца.

Як паведамляе „Paris Soir“, ў пачатку кастрычніка адбудзецца асобнае паседжаньне **францускае** рады міністраў дзеля абгавору пытаньня аб юрыдычным прызнаньні С. С. Р. Р.

Лідэр **вэнгерскае** рэспубліканскае партыі д-р Э. Вэсэр, засуджаны на 2 гады вастрогу за... рэспубліканскую прапаганду, уцёк з **Вэнгрыі** на аэропляне ў Вену.

„Chicago Tribune“ паведамляе што ўдоўж чыгуначнае лініі Батум—Тыфліс ідуць заўзятыя баі. **Грузіны** пад камандай гэн. Даніленкі адрэзалі Тыфліс. **Турэцкі** ўрад пастанавіў захаваць поўны нэйтралітэт. Турэцкія войскі сабраны пры расейскай граніцы.

**Белградзкія** „Новости“ паведамляюць, што у ваколіцах **баўгарскае** сталіцы **Софіі** чуваць стрэлы. Баі адбываюцца таксама і ў іншых месцах **Баўгарыі** ўнутры краю. Урад проклямаваў па ўсім краі стан аблогі.

У паўднёвай **Бразыліі** ў горнай Паране ідзе зноў паўстаньне, пры чым урадовыя войскі разьбіты, альбо забраны ў палон. Засталіся цэлымі некалькі жаўнераў разам з камандзерам, якія схаваліся на тэрыторыю Аргэнтыны. Яны расказваюць, што заходняя часьць штату Парана знаходзіцца пад уладай паўстанцаў.

Хатняя вайна ў **Кітайшчыне** разгараецца. З Пэкіну паведамляюць, што войска манджурскае провінцыі пачало непрыяцельскія дзеяньні проці провінцыі Чэ-Кіянг.

У **Вене** скончылася 17-га верасьня забастоўка мэталістых, якая цягнулася тыдзень.

Жэнэўскія газэты пішуць, што забойца бальшавіцкага камісара Воровского — Конрадзі, які пагражаў рэвольвэрам портэру, а таксама і аднэй з шансонэтак бару „Matin“, быў разьброены паліцыяй пасьля заўзятага спраціву. Конрадзі нібыто знаходзіўся пад уплывам кокаіну. У сьледчага судзьдзі ён паказаў, што быў нецьвярозым, нічога не памятае і вельмі шкадаваў што гэтак здарылася. Дзеля таго, што ніхто не падаў скаргі, Конрадзі будзе адпавядаць толькі за парушэньне публічнага спакою.

„Times“ паведамляе з Танжэру, што **гішпанская** дырэкторыя хоча незабаўна прыступіць да перагавораў з Абдул-Кэлімам. **Гішпанія** згаджаецца зрачыся значнае часьці **Мароко** і прызнаць уладу мароканскага султана.

У **Рэвалі** (Эстонія) пачалася чыгуначная конфэрэнцыя **Эстоніі, Літвы, Латвіі і Нямеччыны.** Маршалкуе латвійскі дэлегат.

„Le Journal“ паведамляе з Мадрыду, што ў **Партугаліі** мае быць зьменены ўрад. Кароль толькі чакае павароту гэн. Прыма-дэ-Рывэры з **Мароко,** каб даручыць утварэньне кабінэту гэн. Вэйлеру з удзелам ранейшых палітычных партыяў.

Орган нямецкіх соцыяль-дэмакратаў „Vorwärts“ паведамляе з Копэнгагі, што падчас дадатковых выбараў у **Даніі** ў вышэйшую палату, дацкія соцыяль-дэмакраты на агульны лік 28 мандатаў адтрымалі — 12, набыўшы гэткім чынам 3 месцы ў параўнаньні з ранейшым палажэньнем.

Францускія окупацыйныя войскі ў **Нямеччыне** пакінулі Обэргаузэн.

17-га верасьня ў **Вене** падчас паседжаньня дэлегатаў мэталюргічных саюзаў, натаўп, які складаўся пераважна з камуністаў, некалькі разоў рабіў спробу штурмаваць будынак, дзе адбывалася паседжаньне. У барацьбе цяжка ранена 10 чалавек соцыяль-дэмакратычнае варты, бараніўшае будынак.

# Агляд прэсы.

## У Белавежаскай пушчы.

„Kurjer Poranny“ апісвае барацьбу бандытаў з паліцыяй у Белавежаскай пушчы:

> Напрамак дывэрсыйнай акцыі на Крэсах у апошнія часы даказваў, што плян рухаў савецкіх бандаў акуратна апрацованы. Савецкія банды, перайшоўшы польскую граніцу, разьбіваліся на малыя групы, а навет па аднаму перабягалі ў район Белавежаскае пушчы. Як выясьнілася, ішло тут аб тое, каб выкарыстаць пушчу і яе недаступныя гушчары, як базу для вялікшых бандаў, якія тут лёгка маглі гуртавацца. Бо дагэтуль амаль што ня ўсе спробы дывэрсыянэраў разьбіваліся аб рашучасьць польскіх пагранічных аддзелаў і пакуль ім удавалася засесьці ў нейкай схаванцы, іх загадзя прасочвалі і або абязбройвалі, або забівалі, або выкідалі за граніцу.
>
> Вайсковыя здольнасьці гэтых савецкіх бандаў дзеля зразумелых

---

сьвеце і як наша справа...

Ужо пачынала схіляцца сонца, калі над самымі нашымі галовамі закрычалі гусі.

Мы ўсе паднялі ўгару галовы.

Я глядзеў на ляцеўшыя гусі і думкі мае былі невясёлыя...

### XXXIII.

### Гусі ляцяць.

Гусачкі, вы, мае! Куды-ж вы ляціцё! Куды-ж долю маю нясеце? Гусачкі, адгукнецеся!...

Гусачкі ня чуюць мяне!..

Каб яны бачылі, як цяжка нам, дык не пакідалі-б нас...

Добра нам з вамі толькі сярод глухіх лясоў, дзе ня бачаць нас людзі...

Вось схаваліся за хмарай і толькі чутно, як яны, лецячы над лесам і балотам, крычаць, быццам кідаючы нам апошняе бывай!...

Цяжка на сэрцы зрабілася...

Апошнія, праменьні сонца на лістох дрэваў чырвонай зарніцай яшчэ гараць, але ось момэнт і цёмна зрабілася ў лесе...

На далёкім небе зорка яскравая зьвілася...

Туды, да яе, цяпер гусі ляцяць.

Ночкай гэтай яны адпачынуць, а заўтра, чуць-сьвет, паляцяць ад нас...

Хутка, ўжо хутка, пад сьнегам замоўкне! Будзе стаяць, нібы ў цяжкай думцы, насунуўшы сівыя бровы сярдзіты і паважны...

Калі-ж зноў прыйдзе вясна і цёплае сонца растопіць белы сьнег...

Зноў, над лесам угледзеўшы ў небе высокім, пад белымі хмаркамі, зьвястуноў вясны, я лесу цёмнаму скажу:

«Ня сумуй, браце! Ось бачыш гусі зноў да нас ляцяць!»...

### XXXIV.

### Думкі ў лесе.

Думкі мае, як хвалі бягуць адна за аднэю спакойна, ціха, то раптам узьнімуцца вялікай грознай сьцяной...

Сэрца, быццам сьціснутае перадсьмяротнаю мукай, замрэ і жудасна зробіцца мне...

А лес усё шапоча свае цудоўныя казкі, кажа пра славу маіх прадзедаў, пра іх страшэнныя мукі за волю старонкі радзімай, бітвы, дзе вораг уцякаючы шукаў ратунку сярод гушчару лесу і гінуў там, бо лес, гэты лес, заўсёды быў добрым хаўрусьнікам маіх прааўцоў...

Казаў і пра тое, як вораг, нішчачы вёскі, гарады, сёлы, мястэчкі, гнаў у далёкую няволю жанок, дзяўчат і ось ён, гэты цёмны лес, ратаваў сярод сваіх густых галін маіх братоў ад зьдзеку і нядолі...

Думкі бягуць...

Лес цёмны шуміць...

Жудасна сьціскаецца душа і чую я, як праз шум галін нечы голас магутны кліча...

«Ня сумуй, браце, што нядоля пануе над старонкай радзімай, што льецца кроў братоў, што поўны ёю муры ў вялікіх турмах... Ня сумуй!»...

Хутка прыдзе час і на помач прыду я да вас...

Сярод маіх глухіх месцаў зьбярэцеся на вялікую нараду і ніхто ня будзе перашкаджаць вам, на варце стану я...

Стагнаньне братоў тваіх дайшло да мяне і мушу я паклікаць усіх, у кім б'ецца, гарыць агнём барацьбы душа... Годзі зьдзеку і кайданоў!

Мае казкі навучаць вас, як гінуць горда ў барацьбе і сьцяг вольнай старонкі высока трымаць у руцэ!»...

Страшна загудзеў стары лес. Затрашчалі карэньні, галіны, завыў вецер, яркая маланка засьляпіла вочы... і страшэнны грукат патрос зямлю...

«Ня сьпеце-ж, браты, бо надходзе гадзіна, калі паклічу я вас!».

Пачуліся грамавыя словы з вяршынак дрэваў...

Зноў усё сьціхла...

**Дзяргач.**

*(Працяг будзе).*

прычын цягнулі іх да Белавежаскай пушчы. Але ў гэтых старaньнях былі важныя повады палітычнага характару. Як ведама, у Белавежаскай пушчы ёсьць на лясных работах б. жаўнеры б. арміі гэн. Балаховіча. Вось да іх хацелі папасьць саветы, каб цяперашнія спакойныя рабочыя масы перарабіць на элемэнт бандыцкі, паграажаючы супакойнаму жыцьцю на Крэсах. Гэткім толькі чынам, як думалі саветы, можна гэты элемэнт выкарыстаць дзеля сваіх мэтаў, дзеля змаганьня з Польшчай.

Спробы бальшавікоў перабрацца ў Белавежаскую пушчу ў мінулым тыдні часткова ўдаліся. Адна дывэрсыйная банда дабралася да пушчы і там разлажылася абозам.

Улада, павядомленая праз г. наз. „балахоўцаў“ аб тым, што ў пушчы паявіліся нейкія таёмныя збройныя людзі, якія качуюць па лесе, зараз-жа наладзіла аблаву.

Бандыты адступалі з аднаго кварталу пушчы ў другі, каб не спаткацца з паліцэйскімі патрулямі. У канцы канцоў 15 верасьня іх выперлі ажно да Берасьцейскага павету. Тады, як дывэрсыянэры пабачылі, што яны ўжо на самым краі пушчы і што далейшае адступленьне для іх адрэзана, пачалі энэргічна бараніцца. Падходзіўшую паліцыю засыпалі стрэламі са стрэльбаў. Распачалася запраўдная бітва, ў якой аднаго бандыта забілі, двох цяжка ранілі, двох узялі ў палон і абяззброілі, а трох уцякло.

У гэтай аблаве прыймалі ўчасьце аддзелы паліцыі, спэцыяльна прысланыя з Беластоцкага ваяводзтва з камісарам паліцыі начале. Узятыя ў палон бандыты— гэта расейцы з далёкіх расейскіх губэрняў, спэцыяльна нанятыя савецкім урадам для дывэрсыйных бандаў.

Гэткім чынам — канчае „Kur. Por.“ — спробы саветаў даказаць, што на Крэсах робіць разруху і вядзе барацьбу тутэйшае беларускае насяленьне яшчэ адзін раз не ўдаліся.

## ПА СЬВЕЦЕ.

### Прасьледаваньне духавенства ў Бэсарабіі.

Паводлуг вестак з Кішынёва, 1-га верасьня ў залі епархіяльнага дому рэктарам духоўнай сэмінарыі быў адчынены зьезд духавенства Кішынёўскае епархіі. Падчас праверкі ўваходзіўшых дэлегатаў, у залю, дзе адбываўся зьезд, уварваўся румынскі афіцэр з кампаніяй агентаў сігуранцы (шпігоў) і абвясьціў зьезд незаконным, таму што, без пазваленьня ваенных уладаў, сабралася больш як 5 чалавек. Дэлегаты былі апрошаны „дзеля устанаўленьня асабістасьці“. А затым усе былі абвешчаны арыштованымі, дзеля таго, што зьезд вельмі бурна выказваў свае нездаволеньне. Толькі пасьля доўгіх перагавораў окупацыйныя ўлады адмовіліся ад свайго замеру пасадзіць за краты цэлы зьезд, абмежаваўшыся прапазыцыяй дэлегатам у 24 гадзіны пакінуць Кішынёў.

### Непаслухмянасьць цігры.

У панядзелак на гэтым тыдні ў бэрлінскім цырку „Кронэ“ цігра Далія кінулася на свайго дрэсыравальніка, зламала быўшы ў яго ў руках дзеравяны прут з жалезнай насадкаю і цяжка параніла яго пазурамі. Дрэсыравальнік ледзь быў вызвалены сваімі колегамі. Ня гледзячы на гэта, ён маецца далей выступаць ў цырку са сваімі 14-ма ціграмі.

## У С.С.Р.Р.

### Неспакой на Волзе і Урале.

Як паведамляюць з Рыгі, на заводах паўднёвага Уралу паўсталі сур'ёзныя непаразуменьні з рабочымі. Рыкаў вярнуўся ў Маскву, каб быць на нарадзе па апрацоўцы мераў ліквідацыі неспакою. Радавы ўрад баіцца таксама неспакою ў Самарскай і Саратаўскай губэрнях. Дзеля падтрыманьня парадку мясцовым уладам пасланы асобныя інструкцыі.

### Голад у Магілёўшчыне.

Магілёўскі *губисполком* паведаміў ў Маскву аб недахваце хлебных прадуктаў у губэрні. З прычыны гібелі ад засухі азімых і яравых пасеваў губисполком трэбуе ўвозу хлеба да 1-га студня 1925 г. 8 мільёнаў пудоў, якія будуць разданы галодным сялянам. Запас збожжа цалком перааданы сялянству на насеньне ў характары пазычкі.

### У Крыме.

Голад у Феадосійскім і Керчанскім паветах мацнее, сяляне кормяцца фруктамі і сурогатамі. Мясцовай падмогі не хапае. У паветах зарэестравана 14.000 кіненых дзяцей. Галодныя партыямі пераходзяць у Кубаншчыну, шукаючы працы. У сяле Уладыслаўцы з 1570 душ на месцы засталося толькі 600 чалавек, якія пасьпешна распрадаюць жывы інвэнтар. Чугуначныя станцыі Керчынскае і Феадосійскае чугунак запоўнены галоднымі сялянамі, якія трэбуюць бясплатнае адпраўкі на работы ў цэнтральныя губэрні.

### Няма школаў.

Паводлуг даных маскоўскага аддзелу народнае прасьветы к пачатку вучэбнага сэзону ў гэтым годзе ў Маскве засталося па-за школамі 23.000 дзяцей, якія лічыліся кандыдатамі ў школы 1-ае ступені (пачатковыя) і 16.000 дзяцей, хацеўшых паступіць у школы 2-ое ступені (сярэднія).

## Жыцьцё провінцыі.

### З Вялейскага пав.

4 верасьня на савецкай граніцы ў Вялейскім пав. блізка гранічнага стаўпа № 439 загудзелі стрэлы, скірованыя ў бок польскіх пастарункаў. На другі дзень у гэтым самым месцы ізноў з боку савецкай тэрыторыі загудзелі стрэлы. Стралялі нейкія людзі ў цывільнай вопратцы.

### Беласток.

16 верасьня восем збройных бандытаў на дарозе між Рубяжовічамі і Зазулямі напалі на вяртаўшыхся з кірмашу жыдоў. Раніўшы жыдоў, бандыты іх аграбілі, адабраўшы ад іх коні з вазамі. Пасьля гэтага бандыты ўцяклі ў бок граніцы. Паліцыя пагналася за імі ўсьлед.

### Наваградак.

Паліцыя арыштавала на тэрыторыі наваградзкага ваяводзтва нейкага Гадына Мілюка, якога вінавацяць у тым, што ён памагаў савецкім бандытам, а таксама прыймаў і сам учасьце ў некаторых нападах у ваколіцы. Зрабіўшы ў яго хаце вобыск, знайшлі ў яго стрэльбу расейскай сыстэмы, рэвальвар „Наган“ і шмат рэвальвэрнай амуніцыі.

### Пінск.

Акружны суд у Пінску 15 верасьня засудзіў Кузьму Круковіча, 19 г., на кару сьмерці за тое, што ён уночы 17 жніўня г. г. разам з двома сваімі таварышамі, якіх не злавілі, са стрэльбай у руцэ ўварваўся ў хату Янкі Прылуцкага і, напалохаўшы яго, забраў у яго адзежу, боты і спажыўныя прадукты.

Прэзыдэнт Рэспублікі просьбу аб зьменшаньні кары адкінуў.

## Навіны ў тры радкі.

— Лік безработных у Нямеччыне даходзіць цяпер да 371.000 чал. і ў той самы час даецца падмога 436.000 сябром сем'яў безработных.

— Буры і паводкі нарабілі ў Румыніі шмат шкоды. Асабліва пашкоджана Дабруджа. Горад Мурфатляр напалову зруйнованы. Загінула каля 100 чалавек.

— На востраве Формозе бураю забіта 30 чалавек і ранена 342. Зруйнована больш як 3000 дамоў.

— 11-га верасьня ў Даніі цэлы вечар гуляла бура. Загінула шмат рыбацкіх чаек. Усе фрукты зьнішчаны. Забіта каля 40 чал. Бальніцы перапоўнены раненымі.

— У Аўстрыі забаставала каля 60.000 мэталістых.

— У Канстантынопалі з вялікай урачыстасьцю сьвяткавалі 2-ія ўгодкі перамогі Мустафы Кэмаля-пашы пры Тонлю-Пунары, чым вырашыўся лёс грэцка-турэцкай вайны ў Малой Азіі.

— Лік безработных у Англіі быў 1-га верасьня 1.162.000 чалавек; аблічана, што гэта—на 122.923 чал. менш, чымся было 31 сьнежня 1923 году.

— У ваколіцах Эрзэруму (Турцыя) чулася землятрасеньне, ад якога моцна пашкоджаны 18 вёсак. 80% дамоў саўсім зруйнованы. Рэшта—нягодныя для жыцьця.

— У Бэрліне арыштованы фальшывамонэтчык — рабочы фарфоравае фабрыкі, які падрабляў банкноты вартасьцю ў 50 марак.

— У бліжэйшай будучыне мае адкрыцца паветраная камунікацыя паміж Масквою, Бэрлінам і Лёнданам. Даўжыня палёту—20 гадзін.

— 5000 моргэнаў пляцу ў вядомым Іелёстонскім парку ў Амэрыцы выгарэла. Парк гэты—адно з найвыдатнейшых упрыгажэньняў Амэрыкі.

## ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

= **Візыт Дэлегата Ураду**. 17-га верасьня Дэлегат Ураду п. Рачкевіч зрабіў візыт архіепіскаму Хвядосу і падробна цікавіўся тутэйшым царкоўным жыцьцём.

= **Новы Дэлегат Ураду ў Віленшчыне.** З 15 верасьня ўрадуе ў Вільні на пасадзе Дэлегата Польскага Ўраду п. Уладыслаў Рачкевіч.

Беларускае грамадзянства знае п. Рачкевіча досіць даўно, бо яшчэ з 1919 году, калі ён быў начальнікам Менскага вокругу ў Цывільным Урадзе Усходніх Зямель. Пасьля бальшавіцкага наезду на Беларусь, ён быў пэўны час начальнікам Ураду прыфрантавых і этапных абшараў, пасьля чаго Дэлегатам Польскага Ураду ў Сярэдняй Літве. Летам ў 1921 гаду п. Рачкевіч нядоўга быў міністрам унутраных справаў ў першым габінэце Вітоса і пасьля ўпадку габінэту быў назначаны Наваградзкім ваяводай.

Пасаду гэтую ён займаў да апошняга часу, калі, ў зьвязку з дывэрсыйнымі нападамі бальшавіцкіх бандаў, ваяводамі пагранічных ваяводзтваў былі назначаны гэнэралы: Янушайціс—Навагрудзкім і Альшэўскі—Валынскім, а п. Рачкевіч — на месца быўшага Дэлегата п. Романа ў Вільню.

Як відаць з гэтага кароткага перагляду адміністрацыйнае кар'еры п. Рачкевіча, ён праз увесь час быў ў цэнтрах беларускае грамадзкае і культурнае працы і, дзякуючы гэтаму, зусім справядліва лічыцца найлепшым знаўцай беларускага пытаньня. Апрача таго, ён мае па гэтае пытаньне свой устаноўлены пагляд.

Спадзяемся, што ўрадуючы ў цэнтры ўсяе Заходняе Беларусі, п. Рачкевіч пайдзе насустрэчу шмат якім, калі ня ўсім чыста, разумным беларускім жаданьням.

= **Прыезд рэктара**. 19 верасьня раніцай у Вільню прыехаў епіскап Люблінскі Антоні (Марценка), які назначаны на пасаду рэктара Віленскае Духоўнае Сэмінарыі.

= **Зьезд прадстаўнікоў гарадзкіх самаўрадаў.** На зьезд прадстаўнікоў гарадзкіх самаўрадаў у Вільні ад Баранавічаў дэлегованы бурмістар Тараевіч, сябра Магістрату Кацаў і сябра Мястовай Рады Яроцкі.

= **З-за граніцы назад**. Як мы даведаліся, ў Вільню прыслана па этапе сястра быўшага інспэктара Віленскай Беларускай Гімназіі — Красінская, якая выехала легальна ў Радавую Беларусь, але па пераходзе граніцы, бальшавіцкая варта арыштавала яе і даставіла назад у распараджэньне польскай пагранічнай варты. Цяпер Красінская знаходзіцца на свабодзе ў Вільні.

= **Паездка па епархіі.** 3-га кастрычніка архіепіскап Хвядос выяжджае дзеля агляду цэркваў віленскага благачынія. Уладыка замерваецца быць у гэткіх прыходах: Княгініна, Сваткі, Узла, Іжа, Куранец, Рэчкі, Касута, Рабунь, Костыкі (Камень-Спас), Даўгінава і Крывічы.

У Вільню архіепіскап вяртаецца 10-га кастрычніка.

= **Пра стары і новы стыль.** Апублікована архіпастырскае пасланьне мітрапаліта Варшаўскага і Валынскага і ўсяе праваслаўнае царквы ў Польшчы Дзяніса да кліру і міран аб новым і старым стылі. У гэтым пасланьні, паміж іншым, паведамляецца, што Сабор Епіскапаў пастановаю сваею 16 жніўня 1924 году, дадаткова да першае свае пастановы ад 12-га красавіка гэтага году,—багаславіў сьвяткаваньне ў тых месцах, дзе гэта вымагаецца верующым народам, вялікіх і мясцовашанованых сьватаў паводлуг старога стылю, не адмяняючы новага стылю для тых і там, хто і дзе па абавязку службы (вураднікі, рабочыя, вучні, ваякі і інш.) і жыцьця патрабуюць выгадаў новага стылю. Адначасна і Урад даў распараджэньне цераз міністэрства рэлігіяў і народнае прасьветы п.п. ваяводам 16 жніўня г. г. за № 5726, каб цывільная ўлада на мясцох ані не перашкаджала, калі дзе пажадае сьвяшчэньнік або народ, адпраўляньню сьвяточных урачыстасьцяў божае службы паводлуг старога стылю.

= **Рэарганізацыя праваслаўнай духоўнай сэмінарыі.** У сераду на мінулым тыдні Куратар Віленскага Школьнага Вокругу наведаўся да архіепіскапа Хвядоса, з якім абгаварараваў пытаньне аб прадбачанай рэарганізацыі праваслаўнай духоўнай сэмінарыі.

Выдавец: Беларускае Грамадзянск. Сабраньне. Рэдактар: **Язэп Салавей.** Друкарня „Lux“, вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.